ББК 84 Бел7
В71

Новую книгу стихов поэт посвящает самым злободневным вопросам современности. Судьба родного края и то, что происходит за его пределами, героизм советских людей, которые добыли победу в Великой Отечественной войне, связь далекого прошлого с современностью и будущим — вот круг вопросов, которые волнуют автора.

Читатель найдет в книге и лирические стихи на вечные темы — природы и любви.

В $\frac{4702120202-003}{М302(03)-90}$ 44—90

ISBN 5-340-00458-9

* * *

І ў дрэў бываюць наваселлі:
вальней шуміце і ладней,
хоць і не там, дзе вы хацелі,
а там, дзе людзям выгадней.

Ну, хто спытае ў дрэва згоду?
Абы давала ў летні дзень
нам прахалоду
ў насалоду,
пад ногі выпрастаўшы цень.

Але ж усё-ткі ўлічваць трэба,
інакш — божа барані:
тады ўбярэцца ў сілу дрэва,
калі ўцалеюць карані.

## ДВА СЛОВЫ

Два гэтых словы ў вечнай змове.
Як, скажам, ранне і світанне.
Крычаць не варта аб любові,
трашчаць не варта аб каханні.

Скажыце раз,
ды гэтак шчыра,
каб глыбіню пачуццяў змераць.
Ані радзіма, ні жанчына
пустому слову не паверацць.

## СПАТКАННЕ З ВЕЧНАСЦЮ

Снягі сплываюць зноў у Белавежы.
Ці снежань на двары, ці сакавік?
Нібыта вечнасць, зблытаўшы ўсе межы,
згубіла дням і порам года лік.
Мы тупаем —
як ногі не знявечым! —
па некранутым часам гушчары.
А ўсё —
дзеля кароткае сустрэчы
з паслом дагістарычнае пары.
І вось насустрач нам сцяжынай коўзкай ідзе
хадой, упэўненай наўздзіў,
той зубр, якому некалі Гусоўскі
паэму на латыні прысвяціў.
У рухах ані кропелькі знямогі.
Хоць шлях яго пралёг цераз вякі.
На лбе крутым закручаныя рогі —
нібыта ў хмары два маладзікі.
Між сосен, што стаўпіліся наўкола,
ён прыпыніўся і застыў на міг,
як рукапіс Гусоўскага Міколы
у рэдкім радзе векавечных кніг.
Той рукапіс, зусім ужо забыты
пад тоўшчай пылу старажытных сховў,
як зубр,
дарэшты знішчаны нібыта,
у нашу рэчаіснасць увайшоў.
У ручаінах сонца залатое
гарыць, зіму паблытаўшы з вясной.
А я гляджу.
І думкі ўсе пра тое,

што ўвачавідкі вечнасць прада мной.
Яны жывуць і будуць жыць заўсёды,
як натуральнай еднасці
узор —
тварэнне неўміручае прыроды
і чалавечага натхнення твор.

## КАГАНЕЦ

*Памяці К. Каcтравіцкага*

Нібы агеньчык каганца,
ліпіць ледзь-ледзь у небе зорка.
Ані крыжа, ані капца,
адно — сухога лісця горка.

Туды даўно сышоў паэт,
як пад страху апошняй хаткі.
І затапталі даўні след
яго няўдзячныя нашчадкі.

Ды як дакор, ды як папрок,
ды як нячутны крык сумлення,
адвечны працінае змрок
самотнай зоркі мігаценне.

А гэта значыць — не канец
і рунь праклюнецца з зярнятак.
Ліпіць далёкі каганец —
святла высокага пачатак.

# ЯЛТА.
# СУСТРЭЧА З ПАЭТАМ

У скалах,
што сонцам паўднёвым прагрэты,
над морам,
ля самага ўскрайку зямлі,
мы доўга шукалі прытулак паэта,
пыталі,
блукалі
і ледзьве знайшлі.
Маўчаў ён.
Глядзеў невідушча ў прастору.
Нібыта ў музыкі, навострыны слых.
І пошум далёкі спічастага бору
пачуўся з-за пошуму хваляў сівых.
І тупат глухі старадаўняй пагоні.
І ў снежную вею званцы пад дугой.
А сонца каціласа мору ва ўлонне.
І поўніўся позірк паэта тугой.
Сказаць бы яму,
абудзіўшы з нябыту,
хоць голас, як вецер, раптоўна аціх:
ты ведаеш?
Песні Твае не забыты —
пра Зорку Венеру, пра слуцкіх ткачых.
Тут цёплае мора.
Тут сонца.
Магчыма —
для хворага лепшых не знойдзеш умоў.
А ўсё-ткі — чужына.
А ўсё-ткі — чужына.
Не бойся, паэце.
Вяртайся дамоў.

## ВОЛАТЫ

Ці сонейка ззяе, ці ткуцца туманы,
ці белыя веі абсяг замялі,—
два волаты слаўныя,
два веліканы
стаяць непарушна на роднай зямлі.
У неба высокае ўзняты галовы —
вышэй стогадовых ялін і дубоў.
У вуснах застылі няўвядныя словы
пра вечную да Беларусі любоў.
Застылі!
О не!
Я іх чую!
Я чую!
І сэрцам і розумам чую штодня...
А недзе
між зорак
зямляк наш качуе —
бліжэйшая
волатам нашым
радня.
Любімую кнігу гартаючы звычна,
уголас ён вершы чытае ўгары.
І роднае слова
з вышыняў касмічных
вяртаецца зноў у палі, у бары,
у вёскі і сёлы, на плошчы і ў скверы
сталіцы, да будучых станцый метро...
І поўніцца сэрца
той самаю верай,
якая вадзіла паэтаў пяро.
І ў лопанні крылаў,
што бусел для ўзлёту

узняў над буслянкай,
і ў звоне касы,
і ў шолаху жыта,
і ў шуме лістоты
мне чуюцца, чуюцца іх галасы.
Яны адгукаюцца ў гудзе камбайна.
Яны абмываюцца ў чыстай расе.
Іх Нёман люляе, і ціхая Гайна
у далеч гадоў іх ашчадна нясе.
Іх чуюць бліжэйшыя нашы суседзі,
іх чуюць далёкія нашы браты.
І з гонарам скажаш,
куды ні паедзеш,
што ў гэтым краі нарадзіўся і ты.
Яны
у адзіны
зліваюцца голас,
каб іх перуны заглушыць не змаглі...
Жывуць два асілкі —
Купала і Колас,
жывуць паміж намі
на роднай зямлі.

## СКУЛЬПТАР

На выстаўцы работ Заіра Азгура

А талент скульптара —
як талент бога.
Не жартам я кажу. І не на здзек.
З умятай гліны,
быццам бы з нічога,
ўзнікае паступова чалавек.

І вось —
жыццё пульсуе ў кожнай рысе.
Нос. Вочы. Вусны. У барознах лоб.
На выстаўку прыходзь.
І падзівіся
плеядзе вартых памяці асоб.

Як бог,
вяртае скульптар
беззваротнасць,
замешваючы гліну на вадзе.
Ён шчодра дорыць іншым бессмяротнасць
і сам
да бессмяротнасці
ідзе.

## ТУТЭЙШЫЯ

Тутэйшыя.
Нязменныя.
Карэнныя.
Як валуны.
Як волаты каменныя.
Як сосны —
ў неба,
як і ў глебу,
ўрослыя.

Як травы —
то засмяглыя,
то росныя.
Як жыта —
то вясёлае,
то кволае.
Як шлях — умяты
пятамі
і коламі.

Іх студзяць маразы.
І завірухі
ўшчуваюць іх.
Як цешчы.
Ці свякрухі.
Залевы іх сякуць.
І спёка паліць.
І крыўда незаслужаная джаліць.
І сціплыя.
І быццам бы нясмелыя.
Яны — майстры.
І хлебадайцы ўмелыя.

І перад самай страшнаю навалаю
яны ўстаялі.
Мужныя.
Трывалыя.
Нішто для іх
не згублена,
не страчана.
Ні спадчына.
Ні мова.
Тая.
Матчына.
Малодшыя.
Сярэднія.
Старэйшыя.
Карэнныя.
Нязменныя.
Тутэйшыя.

## АНСАМБЛЮ «МРОЯ»

Чатыры хлопцы. Не героі.
Не званары.
Не бунтары.
Ды ад юнацкай вашай мроі
і мне святлей.
Хоць я стары.

Амаль сапраўдныя музыкі.
Амаль паэты. Мастакі.
Кажу я:
дзякуй вам вялікі,
што рэй вядзеце вы такі.

У сэрцы спеліцца надзея,—
хоць то марозіць, то імжыць,—
што мова наша маладзее
і разам з вамі будзе жыць.

## ПАГОНЯ

Пагоняй вытаптаны гоні.
Хоць сядзь на ўзмежку ды скуголь.
Хто ж уцякач?
А хто — ў пагоні?
І спаганяюць чынш —
з каго?

А ці не лепей далучыцца
і нам самім да той з пагонь,
што праз усе стагоддзі мчыцца,
з гадоў красаючы агонь?

Храпуць стрыножаныя коні.
Кілзай любога. І скачы.
Каб у бязлітаснай пагоні
звінелі словы, як мячы.

Але, адвыклыя ад сёдлаў,
сядзім. Хто глух. А хто і слеп.
Хоць добра ведаем, што подла
на танны спакушацца хлеб.

Мы ў долі ўласнай у прыгоне.
І, хоць сцягі мяняе час,
усё жыццё
то мы ў пагоні,
то нехта даганяе нас.

## ВІТАЮ!

Вуліца мая — Лагойскі тракт.
Нумар першы — на фасадзе дома.
Гэта ўжо не мара. Гэта — факт,
сцверджаны рашэннем выканкома.
Стала мне яна яшчэ радней.
У забытых назвах ёсць патрэба.
З даўнім —
і наступнае відней,
і надзейней пад нагамі глеба.

## БОЛЬ ЧАРНОБЫЛЯ

Чым гэты боль нясцерпны вымерадь?
Ён не лягчэй за той — з вайны.
Ці можа край палескі вымерці
без аніякае віны?

Няўжо атрутны вецер выпетрыць
пачуцці нашы, мову, слых?
Няўжо не вернуцца дазіметры
да тых паказчыкаў — былых?

Няўжо абапал плыннай Прыпяці
лясы змарнеюць і палі?..
Усё стрываем, што ні прыйдзецца,
каб не застацца без зямлі;

каб жыта ў полі каласілася,
каб не радзееў лясоў гушчар,
каб над зямлёю не насілася
пагроза смерці ў плойме хмар;

каб катастрофа немагчымаю
была. Каб матухна Зямля
не ўпала, стаўшы Хірасімаю,
счарнелым яблыкам з галля.

Пакуль найгоршае не зробілі,
мір, толькі мір — жыцця пароль.
Неспадзяваны боль Чарнобыля —
зямлі папераджальны боль.

## РАЗМОВА Ў РАЙКОМЕ

Сакратар райкома — малады,
баявіты ў сілу маладосці:
— Дзякуй, што прыехалі сюды.
Рэдка ў нас цяпер бываюць госці...

— Ну, а як?..
Ён да акна прырос.
І вярнуўся. Праз адно імгненне.
— Што датычыць нежаданых доз,
болей схопіш нават на рэнтгене...

Я нядаўна — толькі што — з сяла...
Радуюцца людзі пераменам...
І размова шчырая пайшла
пра жыццё і пра нядаўні пленум.

— Ведалі пра гэта і раней...
Ды маўчалі...
бо з такой праявы...
А цяпер — балюча...
ды радней
сталі нам усёй краіны справы...

Сёння не адседзішся — абы...
Вось і мы... працуем — не лайдачым...
Дачакацца б новае сяўбы...
Будзем сеяць...
А далей — пабачым...

І зусім без суму, без тугі
ён дадаў:
— І пажыцця аддаў бы,

каб спакойна адышлі снягі,
каб паводку вытрымалі дамбы...

Ну, а снегу — як назло!
Але
не нясуць надзей метэазводкі...
У райцэнтры, як і на сяле,
усё ў чаканні веснавой паводкі.

## ПАКІНУТАЯ ВЁСКА

Нікога. Цішыня. Нібы віхура
прайшла, нагнаўшы першабытны страх.
Здзічэлы вецер белыя хаўтуры
спраўляе на заснежаных дварах.

Не рыпнуць дзверы ў выстылыя сенцы.
І клямка не падымецца з цвіка.
Святло не ўспыхне ні ў адным акенцы,
і шыбы ўсе — як вочы мерцвяка.

Нідзе дымкоў над стрэхамі не бачна.
Не менее сцяна прамерзлых дроў.
Змарнелы ад бяскорміцы сабачка
стаміўся ўжо чакаць гаспадароў.

На маразы паказваюць прагнозы.
Ды не пакіне ён паста свайго.
Яму зусім няўцям, якія дозы
вышэйшай мерай стануць для яго.

Ён да канца адбудзе абавязак,
хоць не працягне, можа, і да дня.
...Яна страшней ад самых страшных казак,
нявызнаная гэта цішыня.

## НЕЛЕГАЛЬНЫ ЖЫХАР

У бяспечную зону адвезшы сям'ю,
шчасця ён пажадаў навасёлам
і вярнуўся ў палескую вёску сваю,
хоць і не заручыўся дазволам.

Спіць прыціснуты снегам чарнобыльскі пыл.
Спіць, як вораг пад коўдрай казённай.
Замест знака дарожнага —
шэры капыл
са шчытком:
«Забаронная зона!»

Гэта ж тут ён сівых валасоў дачакаў.
Тут струдзіў свае дужыя рукі.
Можа, вернуцца потым і сын, і дачка.
Можа, вернуцца некалі ўнукі.

Абудзіў наваколле з'інелы тапор,
нібы звон з вечавое званіцы.
І, цяпельца жытла прадчуваючы,
ў двор
заспяшаліся з лесу сініцы.

І адскочыла весела дужка замка.
І туга адышла, як аскома.
...Не заўважыў нібыта над хатай дымка
з павароткі
таварыш з райкома.

## БУДЗЕМ ЖЫЦЬ!

Нібы дзяржаўным скіпетрам,
сумётаў шчыльны рад
аж да зямлі
                    дазіметрам
прамацвае салдат.

Ён тут амаль за бога.
І людзям рад служыць.
— Ці многа?
                    — Не, нямнога!
— Ну, значыць, будзем жыць!..

## ПЛАЧА ПРЫПЯЦЬ

Плача Прыпяць.
Як маці,
              плача.
Слёзы ўсмоктвае жвір гарачы.

Плача Прыпяць:
                                 — Мой сынку...
                                                   Бобрык...
і вясёлы ты быў...
                                 і добры...
гэтак мірна бег па зямлі...
А завошта ж цябе звялі?!.
Там,
        дзе ты
                    бестурботна цёк,
перасмяглы пяе пясок...

Плача Прыпяць.
Без слоў галосіць.
Нібы ў долі
патолі
          просіць.
Трэба сэрца —
                          не вушы —
                                          мець,
каб той плач яе разумець.

— Без цябе,
                    без цябе,
                                  мой сыне,
сіла гіне
ў спрадвечнай плыні.

І мяне ўжо каторы год
пераходзяць улетку ўброд.
А цяпер яшчэ —
абвалоўваюць,
у магілу жыўцом закоўваюць.
Зноў заплачу я не з дабра:
не дабрацца мне
да Дняпра...

Мне б суняць гэты горкі плач,
мне б сказаць ёй:
— Прабач!
Прабач!..

А зямля,
нібы звон, гудзе:
— Быць бядзе!
Бо вайна ідзе!..
Экскаватараў абцугі
угрызаюцца ў берагі.
Наступае за валам вал,
каб забіць раку напавал.

І пачулася мне ўгары,
ў кроплі той,
што з-пад сонца ўпала,
плач балесны Амудар'і,
стогн знявечанага Арала.

## ЕДНАСЦЬ

Даўгава.
Заходняя Дзвіна.
Плынь адна.
І шлях адзін — сукупны.
Двух братоў-народаў даўніна.
Дзвюх сясцёр-рэспублік
дзень наступны.

Звеку
хваля Даўгавы-Дзвіны,
кайданы зімовыя раскуўшы,
як калыскі, гойдала чаўны
мужных крывічоў,
суровых куршаў.

Смерць і гора сеяла вайна.
І тады, у ворага ў палоне,
усё ж паіла Даўгава-Дзвіна
прытамлёных партызанскіх коней.

І цяпер, нібыта спарышы,
што з'ядналі долю без прымусу,
Даўгаву шануюць латышы,
як Дзвіну шануюць беларусы.

## ВЕСКА ВОЗЕРА

Зноў завітаў у вёску Возера.
Душой даМіншчыны прыкут.
Відаць, пайшла прырода з козыра,
калі стварала гэты кут.

І чалавек
з сардэчнай рацыі,
хоць ён, вядома, і не бог,
і розумам сваім і працаю
як мог
прыродзе дапамог.

Ён шчыраваў з прыродай зладжана.
Браў у яе.
Ёй нешта нёс.
І нерастуе рыба ў сажалцы.
І лес грыбніцаю прарос.

Дадому выбраўся запознена.
А на душы ў мяне чысцей.
Жыві, мацуйся,
вёска Возера!
І не знікай.
І не пусцей.

## АДСЮЛЬ

На золку ў Крупках цішыня.
Над рэчкай вецер дрэмле ў соснах.
А хлопцам сніцца вышыня.
У снах штурмуюць хлопцы космас.

І не бяда, што іх пакуль
не залічылі ў экіпажы.
Ад спраў сапраўдных
не ўбаку
яны растуць. І час пакажа.

Хаця лятаюць толькі ў снах,
не вяне мара і спрасонку...
Адкрыўся, знаюць, зорны шлях
адсюль Валодзю Кавалёнку.

## ХАТА
## РЫГОРА БАРАДУЛІНА

Яна жыве,
нібы туга матуліна,
і смех дзіцячы тоячы і плач,
старая хата, хата Барадуліна —
сляза ўспаміну на шчацэ Ушач.

Рукамі аўдавелай мамы ўзведзена
замест гнязда,
што ўзяў агонь вайны...
А сын нячаста ездзіць у адведзіны —
па-новаму гняздуюцца сыны.

Чаканне — справа дужа ненадзейная.
Не дачакацца можна да канца.
І ўсё ж чакае жыта самасейнае
на дворышчы
руплівага касца.

Ды ападае долу зерне з коласа.
Парэчкі асыпаюцца з куста.
І тэлефон у хаце —
як без голасу.
І з пошты —
аніводнага ліста.

Ніхто і ў печы не напаліць з ранічкі.
Ссівелы попел —
як счарнелы снег.
Астыў загнетак,
дзе пякліся дранічкі,
абы сынок не нашча ў школу бег.

І раптам брамка зарыпела весела.
І крутануўся радасна замок.
Святло ў акенцы —
як агеньчык з крэсіва.
І голубам над комінам —
дымок.
І цеплынёю хата зноў атулена.
А цеплыня —
не колішні ўспамін.
Нарэшце да Куліны Барадулінай
прыехаў сын,
яе адзіны сын.

## ІВАНАЎ ВЯЗ

Яе Іван быў як усе Іваны.
Муж. Бацька. І нарэшце — партызан.
Ён у магіле брацкай пахаваны,
яе адзіны між усіх Іван.

І гаравала з малалеткам-сынам.
І ноччу ўпотай плакала не раз.
Абодвум пра Івана напамінам
быў да вайны ім высаджаны вяз.

Вяз...
гэты вяз...
Не, ён не проста дрэва!
Ён — як асілак на сваёй зямлі.
Ані мароз, ні спёка, ні залева
яго жыццёвай сілы не звялі.

Бруяцца сокі пад карой шурпатай.
Гамоніць неўміручае лісцё.
І ўсё вышэй ён устае над хатай
не помнікам, а як само жыццё.

Ды хоць гады знікаюць беззваротна,
ўсё адчувальней з часам іх цяжар.
Ён памятае і агонь смяротны,
і папялішча неастылы жар.

Ён памятае светлы дзень вясновы
і ззянне пераможнага сяйва.
Ён памятае,
як падмурак новы
ўкладала партызанская ўдава.

Іванаў вяз...
На свеце ўсім — адзіны.
Няма ўжо і ўдавы...
Ды што з таго?
Ссівелаю бярозаю
Куліна
хінецца,
як у песні,
да яго.

## РЫГОРАЎНА

Не, відаць, не ўсё яшчэ агорана.
Сыну — шэсцьдзесят. А нежанаты.
Сцежкаї натаптанаю Рыгораўна
клыпае з гародчыка дахаты.

Парсючок за сценкай сыта рохкае.
Седала абселі дружна куры.
А жыццё —
яно такое крохкае:
побач роды,
побач — і хаўтуры.

Колькі іх — з вайны —
калек і ўдоў яшчэ?
Менш і менш. Не варта і даводзіць.
Але ёй не час пакуль у сховішча,
скуль ніхто ўжо болей не прыходзіць.

Хоць, вядома, і яна — не вечная.
Развітацца некалі павінна.
Там ужо даўно сястра стрыечная,
што была як родная,—
Куліна.

Разам з ёй часінаю галоднаю
леташнюю бульбачку капалі.
Разам з ёй у вечары пагодныя
запявалі песні на купаллі...

Да сястры б...
Дык хто ж тут паклапоціцца
сёння пра апошнюю абноўку?

Па шчацэ сляза міжвольна коціцца —
сын паехаў у камандзіроўку.

То на Поўдні ён, а то на Поўначы.
І калі ж адчуе ўрэшце стому?
Але ўсё ж,
яе, старую, помнячы,
адусюль вяртаецца дадому.

Прылягла. Сышліся вейкі зморана.
Змрок паўзе пад вокны па аерах.
Сніцца ёй, нібыта ноччу зорнаю
ніцаю вярбой сышла на бераг.

Месячык дарожку ёй высвечвае.
Вісне хмарка зношаным каптанам.
Як тады, калі яны за Вечалле
хлеб сялянскі неслі партызанам.

Міг падчас, нібы стагоддзе, выбеліць.
І яна імгненна пастарэла,
калі цудам удалося выбавіць
ёй падлетка-сына з-пад расстрэлу.

І не дзіва, што дасюль ёй мроіцца
цяжкі год варожае блакады.
Раны сэрца вельмі доўга гояцца,
і не мае час над імі ўлады...

Прахапілася.
Нібыта клямкаю
нехта бразнуў...
Не. Здалося. Ціша.
Толькі ветрык над маўклівай брамкаю
вецце перасохлае калыша.

Сном начным усё наўкол агорнена.
Ані крокаў з вуліцы, ні гукаў.
«Пачакаю,—
думае Рыгораўна,—
можа, дачакаюся і ўнукаў.

Сын прыедзе — ўсё адразу зменіцца.
Годзе гойсаць па далёкіх светах.
Завітае, можа, і пляменнічак,
той, што ў Мінску служыць —
у паэтах».

## ДАРОГА

Пад цяжкай ношаю былога,
з трывожнай думкай аб вайне
я да цябе прыйшоў,
дарога,
што з дому вывела мяне
ў той дзень,
па-летняму лагодны,
які надзей нам столькі нёс,
калі на Мінск —
мой горад родны —
бяда звалілася з нябёс.
Блакіт расколваўся ад грому.
Сталёвым ветрам скрозь мяло.
Шугаў агонь у вокнах дома
маленства светлага майго.
На ўсход —
адзіны быў ратунак
з-пад смертаноснага гала.
Ты падказала мне кірунак,
і прыняла,
і павяла,
дарога,
з вогненнага пекла,
што ўсё, здавалася, зграбе.
А неба здраджанае
секла
гарачым градам па табе,
па мне,
па людзях.
Нехта гінуў,
крывёй фарбуючы асфальт.
А ззаду ўжо страляла ў спіну

чужое
злое
слова:
— Хальт!..
Пад цяжкай ношай успамінаў
пакутваць буду ўвесь свой век,
што ў час ліхі цябе пакінуў
на глум,
на крыўду
і на здзек.
А ты мне вернасць захавала
і, хоць пабіта скрозь была,
у бітве з лютаю навалай
назад —
дадому —
прывяла...
Хоць —
у абноўленым убранні —
ты сёння ззяеш, нібы шкло,
цябе пазнаў я:
ў тое ранне
табой
жыццё маё пайшло.
Ты,
безумоўна,
тая,
тая,
што ўстала з попелу і тла,—
мая адзіная,
святая
дарога праўды і святла.

## ПАКУЛЬ НЕ СЫШЛІ...

Пакуль паміж намі жывуць ветэраны,
спытайцеся ў іх аб мінулай вайне.
Яны не згадаюць пра ўласныя раны,
яны вам раскажуць аб слаўнай вясне.

Яны вас паклічуць да тых абеліскаў,—
што ў цішы снягоў ці ў маўклівасці траў...
І вам пакланіцца захочацца нізка
усім, хто сябе Перамозе аддаў.

На міг ветэран адхінецца спіною,
каб сцерці слязу патаемна ад вас...
І стане вам ясна, якою цаною
усё дасталося, чым стаўся наш час.

— Трымайся!..— шапне сам сабе ён упарта.
Зусім як калісьці, пад куляў выццё...
І стане вам ясна, чаго яно варта —
здабытае ў бітве смяротнай жыццё.

Як гояцца доўга балючыя раны...
Ад выбухаў памяць уздрыгвае ў сне...
Пакуль не сышлі на спачын ветэраны,
спытайцеся ў іх аб апошняй вайне.

## НАВАБРАНЦЫ ВАЕННАЙ ПАРЫ

Мы — навабранцы.
Толькі з эшалона.
Апранены хто ў што і абы-як.
Суровыя вайсковыя законы
яшчэ нас не прызналі за ваяк.
Як ціха тут!
Спакойна.
Хоць і хмарна.
Сняжынкі на траве, як на лязе.
Найпершая ў жыцці маім казарма —
барак дашчаны ў векавой тайзе.
Тайга...
Тайга...
Ані канца ні краю...
Хоць тут зямлі савецкай самы ўскраіі...
Насілу ўзводны ў лазню нас збірае,
а там —
пасля цяплушак —
проста раі...
Я пакідаю клунак небагаты.
Стрыгуся як належыць нагаló.
І старшына,
на зайздрасць зухаваты,
вядзе наш строй у новае жытло.
Адольвае хлапцоў патроху стома.
Жалезны ложак лепш усё ж ад нар.
І засынаюць многія, як дома,
забыўшыся,
што дзесь гудзе пажар...
Стэпавікі з бязмежжаў Казахстана.
З Урала маладыя казакі.

Хто юрту сніць
у мроіве пясчаным,
хто мазанку
ў станіцы ля ракі...
А мне запаў у сэрца сорак першы.
І Мінск.
І Магілёўская шаша.
З павек слязіну горкую ацерпы,
я сам не плачу —
слёзы лье душа...
Упершыню ўставаць з пабудкай —
цяжка.
Прадраўшы вочы,
здзіўлена глядзім:
зрабілі паласатыя цяльняшкі
нас,
як блізнят,
падобнымі зусім.
І, нібы да вайны,—
і смех,
і жарты.
І кожны сам любуецца сабой.
І толькі потым,
хто чаго з нас варты,
пакажа,
як экзамен,
першы бой.

## БАЛАДА ПРА МАРСКІ ДЭСАНТ У КАКТЭБЕЛІ

Паміж каменяў шэрых,
каля вусця ракі,
непрыкметна пад бераг
падышлі маракі.

А вада — аж па грудзі.
Снег — шрацінамі ў твар.
— Хутка горача будзе,—
не маўчыць камісар.

— Нам бы тут зачапіцца
за грудок ці за схіл.
Войскі нашыя фрыцу
хутка выйдуць у тыл!..

І ракета рассекла
цемру — вогненны знак:
пачынаецца пекла
незлічоных атак.

— Гэй, марская пяхота,
як належыць удар!..
Да варожага дота
не дабег камісар...

Залпы глушаць і глушаць.
Рэха ў скалах гудзе.
Дзе ж падмога ім з сушы?
Не відаць. Не ідзе.

Чырванецць пачынае
снегу свежага бель.
Нехта крыкнуў з адчаю:
— Каб табе,
Кактэбель!..

Садзяць, гады, з засадаў
па зямлі, па вадзе.
І няма ад снарадаў
паратунку нідзе.

Карабельнае рубкі
не відаць з-пад вады.
Шлюпкі, нібы шкарлупкі,
у абдымках бяды.

Б'юць і ў лоб, б'юць і скосу
міны, порачы змрок.
Паміраюць матросы,
а назад — ні на крок.

Паміраюць матросы,
ані кроку — назад.
Хто іх кінуў на ўцёсы,
даў смяротны загад?

Феадосія побач.
Недалёка і Керч.
Там таксама па робах
хвошча смерць,
нібы смерч.

Не паспела падмога.
Не прарвалася ў Крым.

А жывых — анікога.
Толькі кроў. Толькі дым.

Мора галькай стукоча.
Пенай пырскае ўзбоч.
Вечнай стала ім ноччу
навагодняя ноч.

## БАЛАДА
## ПРА ХЛЕБНУЮ ПАЙКУ

Ішоў са шпіталя пяшэчкам
у гавань балтыйскі матрос.
Між рэчаў
у чорным мяшэчку
і пайку ён хлебную нёс.
Стаялі маўкліва трамваі.
Прамерзла нябёс сінява.
Застыла, нібы нежывая,
у саване белым Нява.
Не бачыў дасюль ён такога
за цішай шпітальных турбот.
І раптам:
— Увага!
Трывога!
У сховішча ўсім!
Артналёт!..
Згасаючай зоркаю свечка
настылы высвечвала змрок.
І хлебную пайку з мяшэчка
дастаў ён —
цярпець больш не мог.
— Пампэш тут,
не еўшы да ночы,—
сказаў, як падумаў услых.
Ды ўбачыў галодныя вочы,
умольныя вочы малых.
Глядзелі хлапчук і дзяўчынка.
І гэтак глядзелі —
што жах.
І чорнага хлеба скарынка
мігцела ў сірочых вачах.

Матрос працягнуў ім акраец.
Самому пад'есці — не лёс.
— Бярыце...
Сілкуйцеся...
Заяц
вам хлеб гэты з лесу прынёс...
І ўстаў.
І пайшоў.
У дасвецце.
У порт.
Да эсмінца свайго.
І знік.
І ніколі ўжо дзеці
не бачылі болей яго...
Гады за гадамі мінаюць.
І боль перажытага сціх.
А чорнага хлеба акраец,
што даў ім, вядома, не заяц,
па сёння яны ўспамінаюць
пры дзецях і ўнуках сваіх.

## БАЛАДА ПРА ЛЕНІНГРАДСКАГА МУЗЫКУ

Ён сам сабе
на пальцы квола хукаў.
Амаль празрысты.
І сівы.
Як бог.
Ён жыў у свеце
вобразаў і гукаў,
хоць як раней
зайграць ужо не мог.

У змроку
цьмяна аплывала свечка,
калі сірэнам
дакучала выць.
З апошняй сілы
адчыняў ён вечка,
каб знойдзеныя гукі
ажывіць.

Запыленая дэка фартэп'яна
тырчала,
як зламанае крыло.
Мелодыяй,
дагэтуль не чуванай,
ён намагаўся
перасіліць зло.

Але аднойчы
вышчарблены клавіш,
што кожны раз

бязбожна западаў,—
«Каго ты ганіш
і каго ты славіш?..» —
надтрэснута
ў музыкі запытаў.

І нібы акрыяў на міг
музыка.
На гэты міг —
на момант усяго
да болю невыноснага,
да крыка
напялася мелодыя яго.

А нехта ўжо
упарта ў сценку грукаў.
Нібыта зноўку
артабстрэл грымеў...
Ён жыў у свеце
вобразаў і гукаў.
А нехта —
за сцяной —
не разумеў...

Ён быў музыка.
Можа — невялікі.
А можа — найвялікшы.
Суддзі — хто?
Апошнюю мелодыю музыкі
не чуў,
апроч суседа,
аніхто.

Ён жыў у свеце
вобразаў і гукаў.

І адышоў.
Як растварыўся ў іх.
І за сцяной
ужо ніхто не грукаў.
Той —
за сцяной —
ужо таксама сціх.

На Піскароўскіх могілках —
без ліку
пакладзена загубленых вайной.
Ніколі ўжо
не адшукаць музыку,
як і таго,
што грукаў за сцяной.

Усіх,
каго ў нябыт звяла блакада,
па імені
ніхто не назаве...
Здалося мне —
у гуках Ленінграда
мелодыя нязнаная жыве.

## БАЛАДА ПРА БЕСКАЗЫРКУ

Несамавіты.
Невысокі ростам.
Семнаццаці на выгляд не дасі.
Ён не служыў на караблях матросам.
Ён проста быў сапраўдны адэсіт.

На рубяжы іх засталося мала.
Апошніх прыбіраў смяротны вір.
І крыкнуў ён:
— Бывай, Адэса-мама!..
І бесказырку ссунуў набакір.

Дзе ён пазычыў тую бесказырку?
У бацькі,
ў брата?
Якары ўразлёт.
На чорнай стужцы
весела і зырка
зіхцелі словы:
«Чарнаморскі флот»...
Бушлаты расхінуўшы,
чарнаморцы
пайшлі за ім.
І — хоць страляй,
хоць рэж!
Бо ведалі,
што іх рубеж на горцы —
апошні перад горадам рубеж.
Іх завіруха вогненная змяла.
Хоць кожны біўся да канца.
Як чорт.

І плакала на параходзе мама,
што сын малодшы не прыбег у порт...

Ляжыць пад шклом музейным бесказырка.
На стужцы надпіс:
«Чарнаморскі флот».
А побач з самай зорачкаю —
дзірка,
прасечаная куляй навылёт.

## АПОШНІ ДЗЕНЬ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ

*Памяці Героя Савецкага Саюза старшыны 1-й стацці Мікалая Галубкова*

Я з вышыні гадоў,
нібы з гары,
гляджу ў далечыню свайго юнацтва.
І хвалі жаўтаводай Сунгары
мне ўсё часцей і мрояцца і сняцца.

Вінюся я тады перад сабой,
што ваблюся на дробныя спакусы...
І ўспамінаю зноў
кароткі бой
за горад з цьмянай назваю —
Цзямусы.

На бераг сходня выкінута ўраз.
І раптам месяц выплыў з хмарнай сховы.
— Схаваўся б лепей! Ён зусім не ў час! —
пачуўся голас Колі Галубкова.
Спявак найлепшы. Першы жартаўнік.
І прыгажун. Як гюйс матроскі, вочы.
І тут ён
самы першы
ў цемры знік,
за іншымі хавацца неахвочы.
Дэсант сышоў на бераг.
І было б
усё як след.
Адна, другая сопка.

У гэты момант
проста нам у лоб
загаварыла агнявая кропка.
Адкуль узяўся гэты чортаў дот?
У ім і не дастанеш самурая...
А сярод нас
злюцелы кулямёт
чарговую ахвяру выбірае.
Ды Коля Галубкоў
у поўны рост
устаў.
І ўпаў,
падкошаны знямогай...
Яго жыццё пралегла,
нібы мост,
між намі і ўжо блізкай перамогай.
Крывёю захлынуўся кулямёт,
прыдушаны цяжкім і дужым целам.
І толькі стужкі чорныя ўразлёт
шматаліся пад ветрам ашалелым...
Яго прынеслі верныя сябры
на карабель.
І слёзы напрыкметна
каўталі моўчкі ўсе.
А з-за гары
ўставаў
апошні дзень
другой сусветнай...
І кожны раз, калі я над сабой
свой найвышэйшы суд
вяршу сурова,
я ўспамінаю той
кароткі бой
і маладога
Колю Галубкова.

## МІЧМАН КАНАРЭЕЎ

Ідзе па Пінску мічман Канарэеў —
у форме,
хоць даўно ўжо адстаўны,—
і ўспамінае,
як кіпела Шпрэе
ў той майскі дзёнь,
апошні дзень вайны.
Крыху ўразвалку флоцкая паходка,
нібы па хісткай палубе ідзе
на караблі,
што ўпэўнена і ходка
ляціць у бой па ўспененай вадзе.

...Не моўк агонь варожых батарэяў.
Як люты звер,
ашчэрыўся Берлін.
І кінуўся на бераг Канарэеў.
За ім —
усе матросы.
Як адзін.
Праз дым і смерць іх клікала дарога.
Рывок...
Другі...
А колькі тых рыўкоў!..
На сценах з бою ўзятага рэйхстага
ёсць роспісы дняпроўскіх маракоў...
У вецці,
як у скрыжаванні рэяў,
зайшоўся вецер спевамі вясны.
Ідзе па Пінску мічман Канарэеў.
У форме.
Хоць даўно ўжо адстаўны.

І кожны стрэчны мічмана вітае.
Вядома ўсім —
услаўлены герой.
Святочна ззяе Зорка Залатая,
як кропелька,
пралітая зарой.
Выходзіць мічман на ўзбярэжжак Піны,
дзе бранякатэр —
помнік ля ракі —
застыў,
на міг спыніўшы лёт няспынны
у вечнасць,
у наступныя вякі...
Старэюць людзі.
Памяць — не старэе.
Яе не закапаеш у жарстве.
І мічманку здымае Канарэеў
і нізка нахіляе галаву.
Хіба забыць ён можа —
аніколі! —
матросаў,
пабрацімаў-карашоў,
з якімі браў Шацілкі,
Лоеў,
Столін,
якіх
пасля Берліна
не знайшоў?..
А сонца так па-майску сёння грэе.
Як і тады —
ў апошні дзень вайны...
Ідзе па Пінску мічман Канарэеў.
У форме.
Быццам ён —
не адстаўны.

## ПАМЯЦІ ПЯТРА ХАРКОВА

> Ведайце: калі мяне не стане —
> Я ў сваю дывізію пайшоў.
>
> *Аляксей Пысін*

Я з Беларусі.
Ты — з Расіі.
Але былі мы як браты.
Адны дажджы нас арасілі,
адны асмужылі вятры.
Хоць не ў адной служылі роце
і нават не ў адным палку,
на флоце я,
а ты ў пяхоце
адну вяршылі талаку.
І сонца нам адно свяціла,
і праўда ў нас была адна,
калі на вернасць і на сілу
нас выпрабоўвала вайна...
І ўсё...
Ні вершаў больш...
Ні пісем...
Ані застольных спарышоў...
Ты,—
як сказаў калісьці Пысін,—
у часць вайсковую пайшоў.
На ўлік
у часці той вайсковай
усе узяты —
як адзін,
хто паў у бітве над Масквою,
хто паў у бітве за Берлін,

хто лёг яшчэ на паўдарозе
і хто пазней ад ранаў злёг...
Ты быў з'яднаны з імі ў лёсе,
ты заставацца больш не мог.
Магчыма, нехта і ўсміхнецца,
і скажа:
— Гэтаму віной...
Не трэба. Годзе. Нашы сэрцы
даўно прастрэлены вайной.
Адзін ва ўсіх апошні адрас
з адзнакай даўняю — В/Ч.
І ў гэтым, можа, тая радасць,
што ў нас наперадзе яшчэ.
На абелісках промні граюць.
І абеліскі — не канцы.
Байцы зусім не паміраюць.
Не пакідаюць строй байцы.
Штогод ускрай былой дарогі
ўстаеш ты майскаю травой.
І ў дзень Вялікай Перамогі
салют грыміць і ў гонар твой.

## МЕДАЛІ

Я не начышчу медалі.
Яны мне тым ужо святыя,
што дым нягодпае зямлі
усўся ў іх бакі крутыя.

Я іх дастаў,
каб прыгадаць
тых дзён падзеі і надзеі.
Я з імі сам —
ні ўзяць ні даць —
на сорак год памаладзею.

Завалачэцца дымам даль,
шалёны вецер зноў завые
у мачтах...
Першы мой медаль
быў за заслугі баявыя...

Па гнуткіх сходнях мы бяжым,
хоць смерць сячэ
ва ўпор і скоса...
Дасюль на беразе чужым
ляжаць мае сябры — матросы.

Ім не ўручалі медалі,
высокіх зорак
не ўручалі.
Яны ж дарэшты аддалі
усё, што мелі. Там, дзе палі.

Калі заслугі — з баявых,
яны — заслугі, не паслугі.

У гонар мёртвых і жывых
салют малюе ў небе дугі.

Ідуць гады, што караблі.
То ў штыль,
                    то ў бурнай крутаверці...
Не стану чысціць медалі,
каб памяць даўніх дзён не сцерці.

## НЕ ЗАБЫЦЬ

У сэрцы ён застаўся — Першамай.
Той — даўні.
Перад самай Перамогай.
Павесялелых птушак весні грай
над зрытаю снарадамі аблогай.
Яшчэ паўнеба засціў дым густы.
Яшчэ крывёй барвовіліся ранкі.
Яшчэ, нібы апалыя лісты,
на ўсход з франтоў ляцелі пахаванкі.
Яшчэ ахвяру возьме не адну
апошні бой, бязлітасны і грозны.
Ды кінутую танкам баразну
ужо раўнялі новыя барозны.
Яшчэ не чулі мы ўрачыстых слоў
аб міры, аб жаданай Перамозе.
Ды ладзіла гняздо сям'я буслоў
на абгарэлай, а жывой бярозе.
Яшчэ раўла гарматамі вайна,
і вораг агрызаўся зверам лютым.
Ды мірных птушак мірная вясна
ужо вітала бэзавым салютам.
І мы ўжо знаём:
хоць балючых страт
не ажывіць ніколі і нікому,
ды хутка грымнуць тысячы гармат
не смертаносным —
жыватворным громам...
На плечы ўнука, дружа, узнімай.
Хай бачыць ён вясновыя разлогі.
...Нам не забыць
той даўні Першамай
прад самым Днём Вялікай Перамогі.

## СУМЛЕННЕ

Я сам сябе суджу сваім сумленнем.
Без скідкі.
Па-партыйнаму суджу.
А з партбілета
пазірае Ленін.
Усё ён бачыць.
Што яму скажу!
Ці ўсюды і заўсёды быў я шчырым?
Ці аддаваў другім усё, што мог?
А мо,
падхоплены будзённым вірам,
і лішнім карыстаўся пад шумок?
О не!..
Калісьці бачыў пасля бою
я куляю прабіты партбілет.
Равеснік мой ахвяраваў сабою,
каб мы праклалі ў будучыню след.
А партбілет застаўся
напамінам
не толькі пра адважнага байца —
гаворыць ён,
што кожны з нас павінен
выконваць абавязак да канца.
Я помню.
Не забуду аніколі.
Я гэта ўсё ўвабраў сабе ў душу.
Як той баец,
што лёг на ратным полі,
свой партбілет ля сэрца я нашу.
А з партбілета
пазірае Ленін.

Мы ўсю дарогу —
з ім,
пры ім,
за ім.
Ён для майго народа
стаў сумленнем.
Ён стаў навек сумленнем і маім.

## ШТО БЫЛО Б?..

За акном зімовая зара
у счарнелым голлі дагарае.
Незайздросны лёс правадыра,
што хваробай скуты памірае.

Ён і сам падобны да зары.
Запаліў
на светлы дзень
надзеі
і сыходзіць...
Моўчкі дактары
сочаць,
як няўмольна халадзее
неахопна велізарны лоб...

Вось і ўсё.
А быў — зусім пачатак.
Як жа разгадаць нам,
што было б,
каб ён жыў хаця б яшчэ з дзесятак?

## ГУЛЯЮЦЬ ДЗЕЦІ Ў ВАЙНУ

З якім захапленнем
дзеці
гуляюць сёння ў вайну.
Гляджу —
і вось-вось, здаецца,
ў маленства сябе вярну,
каб рушыць — між самых смелых —
на штурм агнявой сцяны...
Мы білі ў маленстве белых,—
б'юць гітлераўцаў яны!
Такія ж у іх героі,
як нашы,— ўлюбёнцы мас.
Ды больш дасканалай зброяй
узброіў іх войска час.
Мы зналі — вінтоўкі, шашкі,
услаўленыя штыкі,
з якімі за шчасце наша
хадзілі на бой бацькі.
А тут...
Тут не ў цуд «кацюшы».
І танкаў не палічыць.
Б'е водгулле бою ў вушы,
хоць з вуснаў дзяцей гучыць.
Яно нагадала гукі,
якіх мне навек не забыць...
Каго ж будуць нашы ўнукі
у войнах дзіцячых біць?
Якою найноўшай зброяй
узброіць іх новы час?..
Як боязна мне парою,
нашчадкі мае, за вас!

3 Зак. 2405

## ПРЫСЯГА

Палошчуцца ў вайсковай часці сцягі.
Камандаў рэха мкне ва ўсе канцы.
Для прыняцця Ваеннае Прысягі
пастроены бязвусыя байцы.

Між імі — сын мой.
Як пазнаць яго мне?
Усе яны падобны. Як адзін.
Так і са мной было.
Я добра помню.
Хоць маладзейшы быў, чым сёння сын.

Вайна шалела ў смертаносным шторме.
А вораг Волгі ледзь не дасягаў.
Хлапчук нягалены ў матроскай форме —
я ў цяжкі час Радзіме прысягаў.

З тае пары нашу сваю Прысягу
у сэрцы спрацаваным. Праз гады.
А будзе трэба — і пад кулі лягу,
як кlаліся сябры мае... Тады...

Як дзядзька родны,
пагдядае ўзводны.
Хавае ўсмешку старшы афіцэр...
Зусім паблізу шэпчацца лагодна
з азяблай рэчкай стомлены аер.

А дождажык то прыціхне, то цярусіць.
Прасочваецца сонейка ледзь-ледзь.
І пад аблокі падняліся гусі,
каб у далёкі вырай адляцець...

І раптам — сынаў голас: —
Прысягаю!..
Ён шчырасцю напоўнены святої.
За сорак год дарога пралягае
між гэтаю Прысягаю і той.

Дык хай жа больш не выпадзе такое,
што перанесці давялося нам.
Хай не парушыць на Зямлі спакою
ніхто...
Хай мірна служыцца сынам!

## СУСЕДАЎ СЫН ВЯРНУЎСЯ...

Суседаў сын дамоў з Афганістана
вярнуўся...
　　　　　　На руках — загару медзь...
Я ні пра што дапытвацца не стану.
І па вачах няцяжка зразумець,
што перажыў ён...
　　　　　　　　　След нядаўняй смагі
яшчэ не сцёрся ў зрэнках назусім.
Ды і медаль —
　　　　　　　як сведчанне адвагі —
гаворыць многа воінам былым.
Шрамок сінее ледзь
　　　　　　　　　ля самай скроні...
Начэй бяссонных цёмныя кругі...
І мазалі,
　　　　　што ўеліся ў далоні,
якім па сіле танка рычагі...
Сусед бядуе:
　　　　　　　— Ён не спіць начамі...
Не спіць аж да світальнае пары...
І ўсё глядзіць асохлымі вачамі
туды,
　　дзе бой вядуць яго сябры...
І нам, суседзе, гэта ўсё знаёма.
З гадамі не забылася ані.
Пасля вайны,
　　　　　　　вярнуўшыся дадому,
мы засынаць не ўмелі ў цішыні.
Хоць міма ўсе асколкі праляцелі,
ён не забудзе той пякельны вір:
у гор падступных
　　　　　　　　нібы на прыцэле

даліна перасохлая Панджшыр...
На той зямлі неразгаданых казак,
дзе не адзін сабрат у прысак лёг,
інтэрнацыянальны абавязак
выконваў ён па-воінску. Як мог.
Дасюль ён чуе,
                    як скрыгочуць танкі,
як б'юць гарматы ў тысячы грамоў...
Не налівай...
                    Схавай, суседзе, шклянкі...
Яшчэ не ўсе вярнуліся дамоў.

## «MADE IN USA»

*Балада*

З-за гор суровых сонейка ўставала,
за перавал дарогу даўшы дню.
Дзяўчынка ў школу бегла
ўздоўж дувала.
Дзяўчынка ў школу бегла. Ўпершыню.

Яна была падобная да птушкі.
З іскрыстымі ад радасці вачмі.
Старанна ў косы ўплеценыя стужкі,
як крылцы, трапяталі за плячмі.

Тры крокі заставалася да ганка.
Хутчэй — каб не спазніцца — як мага...
Ды раптам цішу сонечнага ранка
рассекла аўтаматная чарга.

І сціхла ўсё.
Калі прыбеглі людзі,
усмешкаю яшчэ свяціўся твар.
І прыкрываў прастрэлены грудзі,
як чысты бінт,
нячытаны буквар.

Маўчалі ўсе. У горы. У здзіўленні.
Хоць і прывыклі да ахвяр і страт.
І ўпаў перад дзяўчынкай на калені
і вочы ў неба ўзняў старэйшы брат.

Каму яна зашкодзіла? Нікому.
Няўжо вучыцца — цяжкі грэх? Няўжо?!

Пад вечар людзі бачылі,
як з дому
ён вынес старадаўняе ружжо.

Ускочыў у сядло. І ўраз штосілы
пагнаў каня. Як ветру наўздагон.
І маці не ўтрымала, не спыніла.
Тут помста крэўная — святы закон.

Тры дні яго не бачылі, тры ночы.
Ды ведалі,
дзеля чаго ён знік.
І, да размоў дарэмных неахвочы,
маўчаў кішлак. Як горны ледавік.

Нарэшце капытоў пачуўся пошчак,
увесь народ сабраўшы з кішлака.
І перад самай школаю, на плошчы,
з сядла, як мех, ён скінуў мерцвяка.

Душман ляжаў. І ў гібелі — зацяты.
І мёртвы шчэрыў зубы.
З-пад крыса
вытарквалася руля аўтамата
з вядомай маркай —
«Made in USA».

## ЗАВОШТА?

Гарадскія могілкі ў Дзяржынску.
Сумна мне між сваякоў хадзіць.
...З фота на бялюткім абеліску
на мяне зусім хлапчо глядзіць.

Ні адной адзнакі на пагонах.
Цельнік. І дэсантніка берэт.
На шчаках, як досвітак, ягоных
брытва свой не пакідала след.

Пахаванку доўга несла пошта.
А тады — труна. Адтуль. З-пад гор.
Ён усё пытаецца:
— Завошта?
Ён усё пытаецца:
— Навошта?
А ў вачах —
здзіўленне.
І дакор.

Мірны час...
А боль?
А кроў?
А страты?
Мірны час,
а ўсё — як на вайне...
Я маўчу.
Нібыта вінаваты,
што вярнуўся мой зямляк дахаты
з тых краёў
у цынкавай труне.

## СЦЯНА КАМУНАРАЎ

*(З парыжскіх уражанняў)*

Сцяна Камунараў.
На Пер-Лашэз.
Сухое дрэва,
нібы пратэз,
самотна рыпіць
і восенню і вясною.
Ды сон непарушны
у тых,
хто спіць
пад сцяною
адвечным сном.
Хто з куляй у скроні,
а хто ў плячы
ляжаць па сёння
з тае начы —
апошняй начы Камуны.
Упокат
усіх,
як адну сям'ю,
паклалі іх
проста ў зямлю,
а не ў труны.
Бо дошак
для трун
не хапіла б.
Сцяна Камунараў.
Сцяна —
прастрэленая,
ды жывая.
Колькі смяротных удараў

яна
прыняла на сябе
ў тую ноч?
Ды жывая!
Жывая,
бо ў ранах сваіх хавае
памяць
для нас,
для жывых...
Сцяна Камунараў.
На Пер-Лашэз.
На шэрым камені —
белы бэз.
Сцяна Камунараў.

# ВЯСНА ВЕТЭРАНА

*Бацьку*

Вясна пупышкі спеліць на галлі,
стаптаўшы ў лесе леташнее лісце.
Курлычуць над Бярозай жураўлі,
як над Нявой раскутаю калісьці.
У цішу неажыўшае травы
ляціць іх крык, шчаслівы і трывожны.
А ён,
сарваўшы шапку з галавы,
вітаецца, як з другам, з птахам кожным.
Спявае сэрца на вясновы лад,
расстаўшыся са стомаю старэчай.
Па-маладому поўніцца пагляд
рачною і нябёснаю сінечай.
Але затым —
хто ведае чаму? —
раптоўную слязу на вейках выцер.
Магчыма, прыгадаўся зноў яму
той дзень,
калі пакінуў родны Піцер.
Пакінуў,
каб з вінтоўкаю ў руцэ
аддаць Свабодзе маладыя сілы...
Апошні лёд сплывае па рацэ
пад ціхі пошум жураўліных крылаў.
У полымі бязлітасных баёў
за перамогу справядлівай справы
ён бачыў гэтых самых жураўлёў
над Мінскам і ў ваколіцах Варшавы.
Шмат вёснаў адгуло з тае пары.
Усё было — і шчасце і трывогі.

Луналі жураўлі ў агні зары
сцягамі
ў Дзень Вялікай Перамогі.
Ён бачыў потым гэтых жураўлёў
у мірны час над Прыпяццю, над Сожам,
над шызым дымам белых караблёў
у далечы заморскіх падарожжаў.
За бортам хвалі пенныя раўлі.
І ў далях экзатычнае чужыны
яго гукалі з неба жураўлі
дадому, на знаёмыя сцяжыны,—
на Беларусь,
з якою назаўжды
яго жыццё карэннямі зраслося.
Свой лёс, свае найлепшыя гады
знайшоў ён у яе зайздросным лёсе...
Паводка каля ног ужо гудзе.
А ён стаіць, забыўшы на паводку,
нібыта ў жураўлінай чарадзе
пазнаў сваіх сяброў і аднагодкаў.
Кранае лёгкі ветрык сівізну.
А жураўлі,
што з даўніны ўваскрэслі,
яшчэ адну жаданую вясну
яму на крылах стомленых прынеслі.

## ДА МАЦІ

Ехаць — не пераехаць
рэкі матчыных слёз.
Ты даруй, калі нехаць
сын гаркоту прынёс.

Толькі потым дазнаўся,
як журылася ты,
калі не адгукаўся
іншы раз на лісты.

Калі ў час той суровы,
ў франтавой малацьбе
не знаходзіў я словы,
каб суцешыць цябе.

Верай,
            праўдай надзейнай
ты была мне ў вайну.
Што ж на свеце радней мне
за тваю сівізну?

І цяпер, калі часам
небяспека мільгне,
з ёй ніколі сам-насам
ты не кінеш мяне.

Углядаюся ў вочы —
слёз паўнюткі яны...
Што ж, паплач, калі хочаш.
Бачыш —
                    побач сыны.

## ЗАПАВЕТНЫ КОЛЕР

*Мастаку Ю. Пучынскаму*

Хапугамі ды скнарамі
мы не былі ніколі —
шукалі паміж фарбамі
той —
запаветны —
колер.

І па-студэнцку пляжылі
нажытак свой няхітры...
Ах, маладыя ўражанні —
стракатыя палітры!

Мастацкае вучылішча...
Пленэры каля Віцьбы...
Усіх, вайной паніштаных,
нам сёння ажывіць бы.

Якія фарбы —
верыцца —
палеглі б на палотны!..
Не ўзнімуцца.
Не вернуцца,
пайшоўшы беззваротна.

Не ўзнімуцца.
Не вернуцца.
Не зрушаць абеліскі.
Мы памяццю ім верныя
заўжды.
Як самым блізкім.

І нас вялі
салдацкія
дарогі і віхуры
ў акопы сталінградскія,
на сопкі пры Амуры.

Нам, хлапчукам цяголеным,
адкрылася замнога:
крыві чырвоным колерам
палае Перамога.

З тае пары
астатнія
паблякдлі ўсе калёры,
бо кроў фарбуе братняя
світанкі, ранкі, зоры.

І восень,
нашай вуліцай
шыбуючы ў наўколле,
на лісце
не шкадуючы
кладзе чырвоны колер.

## ПРА БЮРАКРАТЫЗМ

Мы ўсе ахвотна ганім бюракратаў.
Бяспечна гэта стала акурат.
А хто хоць раз сваё сумленне кратаў:
— Магчыма,
сам я —
трошкі бюракрат?..
Звычайна бюракрата мы шукаем
між тых,
хто ў кабінетах —
за сталом.
А ён, бывае, раптам узнікае
і ў нас саміх —
амаль нябачным злом.
Прыйшоў на працу зранку не ў гуморы.
Адклаў на заўтра справу. І — забыў.
А мог зрабіць яе яшчэ і ўчора.
Тады і часу марна б не згубіў.
— Ну што з таго?
Ужо такія страты!
Дзяржава не збяднее з гэткіх страт...
Чакайце!
Вы пазналі бюракрата?
Тут вылузаўся чысты бюракрат.
Прасіў настаўнік зазірнуць у школу.
Не зазірнуў, паўз школу ідучы:
— Ну і настаўнік!
Даў жа бог назолу!
Вучыць узяўся, значыць — і вучы...
Камусьці абяцаў зрабіць паслугу.
Ды зноў падаў свой голас бюракрат:
— Дзеля каго ўвіхацца?
Хоць бы другу...

А то ж, як кажуць,
нам ні сват ні брат...
Не завітаў да хворае матулі.
— Ды часу не было. Не вінават...
А ўвечары паспеў усё ж на гулі.
І гэта ўсё адтуль жа —
бюракрат!
Не адказаў у час на пісьмы сябра,
і недзе ён маркоціцца ў журбе...
Я сам сябе,
каб мог,
за вуха ўзяў бы,
але ж балюча гэта —
сам сябе!
Бюракратызм не паддаецца лекам.
Яго знутры не вытруціш нічым,
пакуль не станеш
проста чалавекам,
нягледзячы на званне, пост ці чын.

## ПРА ШКОЛЬНУЮ ПЕРАБУДОВУ

Ідуць справаздачы,
ідуць справаздачы
пра поспехі
школьнае перабудовы.
А хлопчык
ніяк не рошыць задачы
і піша з памылкамі
простыя словы.

І школу нібыта трасе ліхаманка.
А новае — дзе яно?
Ўсё — па-старому.
Дырэктар ляціць на паседжанне зранку,
якое зусім не патрэбна нікому.
Ні дня без інспекцый.
Ні дня без праверак.

Шчыруюць аддзелы народнай асветы.
А колькі ўжо спушчана
«зверху» паперак —
загады,
інструкцыі,
пісьмы,
анкеты.
Пытанні — адказы.
Адказы — пытанні.

Паводкай вірує
паток папяровы.
А бедны настаўнік
не спіць да світання,
каб неяк пазбегнуць
чарговай вымовы;

каб нешта прыдумаць
пра новаўвядзенні
у межах інструкцый і рэгламентацый.
А межы —
не церпяць яны парушэнняў.
Для іх адхіленні —
накшталт правакацый.
Ідуць справаздачы...
Ды што —
справаздачы?!.
Такая патрэбна нам перабудова,
каб хлопчык вучыўся
любыя задачы
адольваць у будучым
беспамылкова.

## КАБ ЗНОЎ...

Той, хто начальству не лагодзіць,
мне цікавей таго, хто рад
любому блізкаму нашкодзіць,
каб толькі выканаць загад.

Каб потым выпрасіць кватэрку
ці нешта іншае з выгод.
Каб спакваля рабіць кар'ерку —
хоць па прыступачцы штогод.

Каб, зрэшты, вырвацца наперад,
а можа, нават у вярхі.
Галоўнае — няўтольны верад,
лухта — і крыўды, і грахі!

А гэны? Гэны — недарэка!
Чаго ён хоча? Што вярзе?
Супроць такога чалавека,
супроць самога бой вядзе!..

Каб зноў у ціхі сон не збочыць,
давайце будзем шанаваць
таго, хто праўду рэжа ў вочы
і ў справе ўмее шчыраваць.

* * *

Перабудова.
Ёмістае слова.
Ды толькі насцярожвае адно:
а раптам,
як бязважкая палова,
з усіх трыбун
развеецца яно?

## СПРАВЫ ВЫДАВЕЦКІЯ

### Дырэктар

Тыражы... Лісткі-адбіткі...
План ляціць... Гараць прыбыткі...
Выйсця лепшага няма:
Запускаем зноў Дзюма!

### Галоўны рэдактар

Сядзіць, задумаўся галоўны:
Шуфляды рукапісаў поўны.
Ці выйдзе кніга, ці не выйдзе —
Што скажуць потым у Камвыдзе?..

### Загадчык рэдакцыі

Нарэшце здадзен план усё-ткі
Аж да наступнай пяцігодкі.
Ды не прыйшлі спакой і ціша:
А што, як аўтар не напіша?..

### Рэдактар

Глядзіць рэдактар заклапочана,
Алоўка круцячы абмылак.
Што ні кажы, чым больш скарочана,
Тым меней месца для памылак.

### Мастацкі рэдактар

Круціць гэтак, круціць так
У руках макет мастак.

Тэксту шмат. А дзе ратунак?
Не ўціскаецца малюнак!..

### Тэхнічны рэдактар

Пералічыўшы гранак гронкі,
Адным ён заклапочан шчыра:
Хто б дапісаў хоць паўстаронкі
Ў апошні том «Вайны і міру»?

### Карэктар

Вочы струджаны да стомы.
Кропак, косак не відаць...
Вось каб аўтару самому
Гэткі рукапіс чытаць!..

### Аўтар

Ты, браток, не Леў Талстой?
У чарзе тады пастой!
І надзённы твой раман
Трапіць з цягам часу ў план.

# КВЕТКІ

Я кветкі шукаў,
каб падарыць жанчыне.
Але ў магазіне
іх і ў паміне
ў той дзень не было.
Вядома —
нядзеля.
Узяць іх паспелі
усе, да адзінай,
хто на вяселле,
хто на радзіны,
а хто —
на магілку.
Нарэшце
я кветкі купіў.
У старэнькай бабулі.
На скрыжаванні
дзвюх тлумных вуліц
ля Дома друку.
Ад шчасця не чуў
ані гуку,
ні груку —
пераклічкі дарожнага руху
з будоўляй метро.
Запомніў я толькі
бясколерны гэткі,
нібы пялёсткі
завялай кветкі,
тварык старэчы,
сухенькія плечы
і вочы —
ажыўшыя на хвілінку,

калі хавала яна ў хусцінку
блішчасты рублік.
Калі ж я потым
агледзеў набытак,
радасць мая прайшла.
У кожнай кветкі
галоўка была
трывала прыкручана да сцябла.
Не шкадавала нітак
бабуля!..
Глядзелі кветкі
мне ў вочы папыла.
І я зразумеў,
што яны —
з труны.
І я зразумеў,
што яны —
з магілы,
толькі што закапанай.
На імяніны
знаёмай жанчыны
я іх не панёс:
замнога слёз,
а не ранішніх рос
іх акрапіла.
Ушчэнт
настрой сапсаваўся мой.
А восень
гразілася ўжо зімой...
Ах, бабуля, бабуля!

# ВЫПІЎ ЧАРКУ,
# ВЫПІЎ ДЗВЕ...

Маладых прывёз Антон
з загса на вяселле.
— Не вазьму,—
пакляўся ён,—
ані кроплі зелля!..
Мне ж садзіцца зноў за руль,
ехаўшы дадому...
Ажно чуе —
«буль-буль-буль»
і — прымус знаёмы.
Заспяваў сяброўскі хор,
звонячы ў кілішкі:
— Ты ж такі, браток, шафёр,
што глыток —
не ў лішкі!..
Ты ж, Антоне, не з такіх,
скажам гэта прама,
каб пакрыўдзіць маладых
і бацькоў таксама!..
Ласку нам зрабіў бы ўсім,
і пра што гаворка!..
А тым часам
маладым
загукалі «горка».
І не вытрымаў Антон
дружнага прымусу,
бо і сам адчуў
здавён
знаную спакусу.
Выпіў чарку,
выпіў дзве,

перайшоў да шклянкі...
Зашумела ў галаве,
бы ў чыжа з Фантанкі.
Танцаваў...
Спяваў...
І скуль
смеласць узялася!
Ухапіўся зноў за руль
ён па нейкім часе.
Што там горад!
Цэлы свет
з'ездзіў бы без зморы...
І яму глядзелі ўслед
сумна святлафоры.
Бачыць раптам —
як назло! —
на рагу,
ля сквера
паласатае жазло
ў міліцыянера.
Тут чамусьці з боку ў бок
завілялі колы...
— Стоп!..
Вылазьце!..
— Э, браток,
вы ж як след «вясёлы»!
Захмялелі гэтак вы,
пэўна, не з вадзіцы...
У кішэнь схаваў правы,
сам за руль садзіцца...
Пешкі клыпае Антон
у ДАІ з пахмелля.
І яму,
як кажа ён,
горка й без вяселля.

Што той штраф!
                                        Такой бяды...
Сум з таго ў паглядзе,
што цяпер
                    аж два гады
ён за руль не сядзе!

## ЧАЙКІ

Ах, чайкі, чайкі!
Птушкі рамантычныя.
Усё забыта —
хвалі, караблі.
Ужо даўно ім стала справай звычнаю
хадзіць з гракамі разам па раллі.
Хаваецца ў глыбінях рыбка шустрая.
Як ні цікуй —
не ўхопіш аніяк.
А тут заўсёды —
то лічынка тлустая,
то жук, то проста дажджавы чарвяк.
І не на топе мачты —
на штыкетніку
з валлём напханым чайка адпачне.
Магчыма, неўзабаве і на сметніку
з варонамі раскашаваць пачне.
Да сытасці няцяжка прызвычаіцца.
Жыві на зайздрасць іншым — спакваля...
А я ўсё чую:
кліча чайка-чаіца
над самай стромкай мачтай карабля.

## СЕРДАЛІКІ

Сердалікі —
сонца блікі —
мора меле.
Як заўжды,
наплыў вялікі
ў कактэбелі.
Упацела
млеюць целы
па ўсім пляжы,
покуль вечар
скалаў плечы
не абляжа.
Крэмам маж,
каб не звуглела
ўшчэнт аблічча...
А на пляж
сыходзіць ціша
пагранічча.
І на моры,
дзе ў прасторы —
змрок суцэльны,
сердалікам
тлее клоцік
карабельны.

## ЧАКАННЕ ВЯСНЫ

* * *

У лютым — сонца. І адліга.
І запяялі капяжы.
Зіма злуецца:
— Што за ліха?
Свой нораў, люты, накажы!..

І ўсё. Адразу сонца знікла.
Згусцела белая імгла.
І завіруха гэтак звыкла
загаласіла, загула.

На шыбіне — за кропкай кропка —
узор выводзіцца скразны.
І на душы няўтульна, зяобка.
І гэтак хочацца вясны.

* * *

А сакавік — зусім як люты.
Марозіць дрэвы і людзей.
Надзейна рэчкі ў лёд закуты.
І на вясну няма надзей.

* * *

І красавік ужо. А пад сасной
бялее снег. І па начах марозна.
Дык, можа, май парадуе вясной
і цеплынёй?
Каб толькі не запозна.

## У ВЕРАСНІ

Паверылася ў верасні,
што зноў сустрэў вясну.
Здалося, шчасце вернецца,
падобна сну.
Падобна сну,
                    што некалі
ўжо сніўся мне.
Снягі сплывалі рэкамі
зусім не ў сне.
Была не сном, а яваю
пачуццяў навіна.
Яскравая,
ласкавая
ішла вясна.
Я ведаю, здараецца:
сон з явай — ва ўнісон.
Чаму ж не паўтараецца
даўнейшы сон?
А дні за днямі гоняцца.
Супынку ім няма.
І сон не ў сон — бяссонніца.
І хутка ўжо зіма.

## БЯРОЗА

То зусім пяшчотнай, то шурпатай
мне здаецца белая кара.
А гракі спрачаюцца заўзята:
ці пара ў адлёт, ці не пара...
Гай звініць пажоўклаю лістотай,
чорны дзень вяшчуючы садам.
І карціць мне падлічыць употай,
дзе ўжо больш —
наперадзе ці там.
Кожны раз,
як лісце на бярозе
пачынае долу ападаць,
я стаю, нібыта на парозе.
Што за ім — не дадзена ўгадаць.

* * *

Лістоту паляць у садах.
І дымам леташняй лістоты,
здаецца, свет увесь прапах,
шібы кашуля горкім потам.

# ВЫГНАННЕ РАГНЕДЫ

*Паэма*

1

Галубоў
з сучаснага Заслаўя
у часы мінулыя паслаў я.

Дзе ж вы,
дзён забытых паштары?
Колькі раз
пад стукат электрычкі
рассякалі цемру ліхтары
і знікалі ў цемры,
нібы знічкі.

Маладзік ад Лысае гары
моўчкі плыў да Замкавае вежы.
Маладзік і вежа —
два сябры,
што вякоў адолелі бязмежжа.

Зоркі — зерне вечнае сяўбы —
падаць пачалі ўжо з небасхілу.
І тады зашамацелі крылы
і завуркаталі галубы...

2

Над Кіевам стольным
ніводнае хмары.
У звоне застольным
сыходзяцца чары.

З якое прычыны
сыходзяцца чары
пад тлум несупынны,
нібы на базары?

З якое прычыны
ўвесь Вышгарад тоне
у спевах дружыны,
у шуме ды звоне?

Сыходзяцца чары
без ладу-парадку.
А ў князя на твары
не ўсмешка —
загадка.

Гуляе дружына,
як б'ецца —
з пляча.
Брыво ў князя гнецца
крылом крумкача.

Чупрына —
як хмара, дзе гром выспявае.
Рагоча дружына,
дружына спявае.

Бо колькі —
не вымераць! —
выбіта донцаў
за Уладзіміра —
Краснае Сонца.

А ў Краснага Сонца,
у Сонейка Краснага

вочы,
як неба ў палонцы,
праяснены.

Вочы — світанак,
што ўгледзеўся ў тонь,
покуль маланак
не выспеў агонь.

Дрэмле агонь
пад крылом крумкача,
покуль далонь
не рванула мяча...

Заходзяцца чары,
звіняць залатыя.
А князевы мары
даўно ў Візантыі.

Звіняць залатыя,
ім стукат не шкодзіць...
У Візантыю
паслоў ён праводзіць.

Да неба ўзнімаецца
гоман бяседы.
І не спяшаецца
князь да Рагнеды.

Да той да Рагнеды,
каханай і мілай,
якую здабыў ён гвалтоўнаю сілай.

Якую здабыў ён крывёй і пажарам,
жыцця не даруючы многім ахвярам.

Якую ён вырваў,
як з бору сасонку...
Ды іншую выбраў
нядаўна ён жонку.

І дзеля яе —
візантыйскай красуні —
ён высушыць моры і горы рассуне!

Няхай толькі тыя,
каго ён праводзіць,
уладару Візантыі
дагодзяць.

Няхай улагодзяць
дарамі царэўну...
А чары на крузе ўжо ходзяць
няпэўна.

А чары няпэўна
па крузе ўжо ходзяць...
Не патаемна
паслоў ён праводзіць.

Хай чутак аматарам
сёння не спіцца:
ён з імператарам
будзе радніцца!

Ці добрая лада
з замежнае павы?
Усё —
дзеля ўлады
і дзеля дзяржавы!

Паслы павязуць
і рашучыя словы,
што веру Хрыстову
прыняць ён гатовы.

Не з самалюбства —
уладзе ў дагоду
змяце ён
          як глупства
багоў свайго роду.

Хай гэта,
          як звада,
суседзяў трывожыць.
Усіх ён
          уладай
сваёю стрыножыць.

Так трэба!
Так трэба!
Так трэба —
          і годзе!
Няхай нават неба
з ім будзе не ў згодзе.

А мёд — без уліку.
Гарланіць няспынна
у гонар Вялікага
Князя дружына.

3

Шмат выпала гора
на долю Рагнеды.
Якія
          чакаюць

наперадзе беды?
Якія чакаюць
наперадзе беды,—
маўчаць,
                не гавораць ёй
вешчыя веды.

Блукае княгіня
па змрочным пакоі,
нібы па пустыні,—
няма супакою.

Блукае княгіня.
Заплаканы вочы.
А думкі —
                аб сыне,
аб долі сірочай.

Ён спіць так спакойненька —
васьмігадовы,
бярозкай у хвойніку —
русагаловы.

Бярозкай у хвойніку —
русагаловы.
Ці ўбачыць ён сонейка
з цёмнае сховы?

З той цёмнае сховы,
куды іх закінуць...
— Спі,
                русагаловы,
не дам табе згінуць!
Не дам табе згінуць
ад чорнае змовы,

не дам,
мої адзіны,
мой русагаловы!..

Нібы па пустыні,
блукае княгіня.
Не згіне сыночак,
званочак
не згіне!
Насуперак князю
ён вырасце князем!..
А сэрца —
як вязень.
Як змучаны вязень —
ад крыўды,
ад жаху...
Нібыта з пагорка,
па стромкаму даху
скацілася зорка.

Скацілася зорка
пагаслаю доляй.
Як цяжка!
Як горка!
Не вытрываць болей...

А з цемры,
як з твані
ці з хмары-пачвары,
узніклі,
як здані,
знаёмыя твары.

4

Абліччы забітых,
але не забытых,
крывёю залітых
ад ранаў адкрытых —
выразней малююцца
прагнаму зроку,
хоць і не чуецца
пошчаку крокаў.

Іх трое.
Старэйшы —
ў прабітых даспехах —
спытаўся,
а голас —
як даўняе рэха:
— Ці нас ты пазнала, Рагнеда?
— Рагнеда! —
астатнія двое прамовілі следам.

Яна іх пазнала!
Пазнала!
Пазнала!
Хоць часу з тых дзён прамінула нямала.

Вось татачка родны!
А побач — браты.
Пакутай смяротнай
скажоны раты...

— Прыйшлі мы,
дачушка,
сюды пехатой,
устаўшы з магіл над ракой Палатой...

— Я помню!
Дзяўчынкай па той Палаце
я разам з братамі плыла на плыце.

Абапал,
у мроіве летняй смугі,
ад кветак і траў стракацелі лугі.

З пагоркаў,
мядзяных у промнях зары,
як дружнае войска, збягалі бары.

Там, дзе Палата абнялася з Дзвіной,
наш замак стаяў за барвяной сцяной...

— Наш замак счарнеў, як зімовае голле.
Развеяўся попел. Астыла вуголле.
Я — полацкі князь,
бацька твой — Рагвалод —
яго бараніў ад раптоўных нягод.
Я праг Уладзіміру галаў ссячы,
ды курчыўся сам на ягоным мячы...

— Я помню!
Я помню!
Той жах
не ачах!
Было гэта ўсё
у мяне на вачах...

— Ды бацька ў той дзень —
не адзіная страта,—
пачуўся ёй голас старэйшага брата.—
Я ў бойцы няроўнай паранены быў.
Знайшоў Уладзімір мяне і дабіў...

— Я помню!
Я помню!
Той жах
не ачах!
Было гэта ўсё
у мяне на вачах...

— І гэта — яшчэ не апошняя страта,—
пачуўся ёй голас малодшага брата.—
Я здацца не мог на пакуты і здзек.
Мне грудзі Ўладзімір надвое рассек...

— Я помню!
Я помню!
Той жах
не ачах!
Было гэта ўсё
у мяне на вачах...

Мне б з вамі падацца па чорнай дарожцы...
Нашто мне жыццё дараваў пераможца?!
Нашто па часіне
крывава-чырвонай
я стала княгіняй
і жонкай ягонай?!

— Паслухай, дачушка...
— Паслухай, сястрыца...
— Хацелі б мы доляй тваёй ганарыцца...

Хіба ён кахаў —
гвалтаўнік ашалелы?
Не!
Вока паклаў
ён на нашыя ўдзелы.

А зараз,
каб чорныя здзейсніць намеры,
адмовіўся ён ад бацькоўскае веры.

Ні жонцы,
ні сыну ён
болей не рады.
А ўсё —
праз адзіную
ўласную ўладу!

Была ты князёўнаю,
стала княгіняй.
Няўжо дажываць табе век свой рабыняй?
Ды ты ж палачанка!
Ды ты ж крывічанка!
Ты вольная птушка,
а не паланянка!

Адпомсці за нас
і ўратуй свайго сына.
Рагнеда —
ўжо час!
Ты павінна!
Павінна!
Па волі ягонай гніюць нашы косці.
Адпомсці,
Рагнеда!
Адпосці!
Адпомсці!

А сэрца ў княгіні —
як змучаны вязень:
— Не! Сын не загіне!
Ён вырасце князем!

Ён вырасце князем!
Не звяне!..
Але
растаді крывавыя здані
ў імгле.

5

У крыўдзе вялікай,
у горы ды злыбедзе,
як чорная лебедзь,—
Рагнеда на Лыбедзі.
Як чорная лебедзь,
самотная лебедзь...
Ці паспагадае Рагнедзе хто-небудзь?

Прыславін — не Полацак.
Змрок і слата.
І Лыбедзь пад Кіевам — не Палата.

Якая спагада?
Хто скажа што-небудзь
ва ўцеху?
Маркоціцца чорная лебедзь.

Сляза,
як крывінка,
гарыць на шчацэ.
А ў князя —
чужынка
на левай руцэ.

У князя —
чужынка на левай руцэ.
А чорная лебедзь адна на рацэ...

Нянавісць, як полымя, вочы ёй слепіць.
У сэрца паранена чорная лебедзь...

6

Ні клямка,
ні брамка
не бразне.
Як вымер
дзядзінец.
Па замку
блукае Ўладзімір.

Блукае па замку зубром-адзінцом.
А зорка ў байніцы ліпіць каганцом.
Ліпіць каганцом, што над Лыбедзю недзе
і слёзы і гора вяшчуе Рагнедзе.

Рагнеда...
Рагнеда...
І сёння яна
адна
ў яго сэрцы.
Як сэрца. Адна.

Усё ў яго ёсць. І багацце. І слава.
Яднаецца верай адзінай дзяржава.
Рукою магутнай мацуецца ўлада.
І радасна быццам.
А сэрца — не рада.
А сэрца не рада.
Бо з сэрца без следу
не вырваць,
не вырваць,
не вырваць Рагнеду!

Спіць Ганна спакойна ў пуховай пярыне.
Чаго турбавацца вялікай княгіні?
Яна —
візантыйскай падтрымкі зарука.
Ды з ёю — нуда. І такая дакука!..
Не можа забыць Уладзімір Рагнеду.
— На Лыбедзь!
На Лыбедзь!
На Лыбедзь паеду!..

Ён выбег у цемру. І крыкнуў:
— Каня!..
Дружына — за ім. Як начная гайня.

Па плошчы, па вулках грымяць капыты.
Гудуць, як бязладныя бубны, масты.
І людзі спрасонку
завалы наспех
абмацваюць:
— Ці не варожы набег?!.

Не ў сечу,
не ў бой
скача князь — у адведы
да ім жа адрынутай любай Рагнеды.

7

Заснуў Уладзімір.
Ён нават і ў сне
суровы:
крані — і маланка бліснe.
Маланка бліснe з навальнічнае хмары.
Заснуў.
Уладарная ўсмешка па твары.

Заснуў.
А Рагнедзе ніяк не заснуць.
Пакутныя думкі снуюць і снуюць.

Яна для яго — як бязмоўная рэч.
На ўсё — яго воля.
Не плач. Не пярэч.
Не плач.
Не пярэч.
Толькі ў вочы глядзі.
Пяшчотай і ласкай суцеш, дагадзі.

Суцеш.
Дагадзі яму.
Ласкай.
Пяшчотай.
Ды як?
Калі спее нянавісць употай...

У небе,
рассекшы блакітны туман,
узнік
маладзік,
як крывы ятаган.
І ціха нашэптвае ёй, што рабіць:
— Спіць князь Уладзімір?
Няхай сабе спіць.
Няхай сабе спіць. І ніколі не ўстане...
Ёй зноў уявіліся родныя здані.
— Няхай сабе спіць...
І не ўстане...
Ніколі...
Ты чуеш, Рагнеда?
Даволі!
Даволі!..

І зноў — цішыня. Аж баліць галава.
Ледзь чутна кігіча за рэчкай сава.
Кігіча за рэчкай.
Ледзь чутна кігіча.
Нібыта за Лыбедзь у лес яе кліча.
За Лыбедзь!
Каб след загубіўся ў трысці.
Каб князевым служкам яе не знайсці.

Яна пад падушкай намацвае зброю:
— Ніхто не пачуе начною парою...
Ніхто не пачуе...
Спяць князевы слугі...
Над сэрцам у князя —
ніякай кальчугі...

Узмах!..
Але здрадна рука задрыжала,
адчуўшы кінжала
халоднае джала.

І князь прахапіўся.
І з сілай такой
кінжал адшпурнуў сваёй дужай рукой,
што той бліскавіцай
у кут адляцеў
і над масніцай
струной затрымцеў.

Рагнеда, як поўня на золку, збялела.
Ды смела
Уладзіміру ў вочы глядзела.
Ні страху,
ні просьбы ў гарачым паглядзе.
Нянавісць!

Нянавісць!
Як воўк у засадзе.

І князевы бровы
сышліся сурова.
Ён выйшаў,
не кінуўшы ёй ані слова.

## 8

— Закувай, зязюлечка,
закувай.
Ці прыйшоў жыццю майму
самы край?..
— Ой, не буду, не буду
варажыць.
Можа, і да дня табе
не пражыць...
— Ты скажы мне, ластаўка,
з вышыні:
Ці не едзе смерць мая
на кані?
— Шабляй маша смертухна,
як касой.
Здыме галаву тваю
ды з касой.
— Ой, саколе-сокалу-
сакале!
У цябе змяшчуся я
на крыле.
— Вынесці б я мог цябе
да святла.
Ды ў крыло наведзена
мне страла...

— Папрашуся у рыбачкі,
ў асятра,—
ці мяне не вынес бы
да Дняпра?
— Пераплыў бы я з табой
вір круты.
Але там расстаўлены
нераты...
— Ах, Пяруне-божухна,
Перуне́!
Што ж ты не заступішся
за мяне?
Мы ж табе адданыя
век былі.
Спапялі адступніка,
спапялі!
— Як жа спапяліць яго,
лада, мне?
Хваляй захлынаюся
сам на дне.
І Ярыла мокне тут,
і Дажбог.
А няма ні выйсця нам,
ні дарог...

9

Сабе —
не камусьці —
Рагнеда спявала.
А сонца з-за вала
памалу ўставала.
А сонца ўставала
з-за стромкага вала.
І бразнула раптам на брамцы завала.

І сам Уладзімір ступіў на парог.
Засоп, як мядзведзь,
што пакінуў бярлог
яшчэ да вясны. Недаспаны мядзведзь.
Крый божа у пушчы такога сустрэць.
Прамовіў:
— Прыйшоў я,
каб здзейсніць прысуд.
А твар —
нібы з медзі застылае скут.
— На гібель цябе асудзіла дружына
за здраду.
Ты зараз памерці павінна!..

Рука ашчапіла дзяржальна мяча.
Вось-вось секане.
Як у байцы.
З пляча.

Ды тут,
хоць не клікаў ніхто і не зваў,
Убег у святліцу іх сын. Ізяслаў.
Устаў паміж імі.
Малы чалавечак.
І выхапіў з похваў свой лёгенькі мечык.
Той мечык,
што бацька з паходу прывёз
яму ў падарунак.
Каб воінам рос.

— Лепш,
татка,
не крыўдзі матулю маю!
Бо я за матулю
гарой пастаю!..

І князь нечакана зайшоўся ад смеху:
— Ну й слаўны сыночак
расце мне на ўцеху!
Гатовы стаяць за матулю гарой?
Вось гэта асілак!
Вось гэта герой!..
На рогат ягоны прыбегла дружына.
Якая для радасці ў князя прычына?
Аж чуюць:
— Удаўся і ў бацьку і ў дзеда!
За гэта
дарую табе я,
Рагнеда,
жыццё!..
А тады загадаў без вагання:
— Княгіню ў выгнанне!
І сына ў выгнанне!
Ім замак узвесці
ў зямлі крывічоў,
каб стаў ён апорай
для нашых мячоў!
А горад,
што там заснаваць давядзецца,
няхай Ізяслававым імем завецца...

**10**

Маладзік
ад Лысае гары
зноў плыве да Замкавае вежы.
Маладзік і вежа —
два сябры,
што вякоў адолелі бязмежжа.

Галубы
ладкуюцца на ноч
у падстрэшшы,
ў ціхім вуркатанні
чую:
— Калі ласка,
не суроч
недаверам даўняе паданне...

Зоркі — зерне вечнае сяўбы —
пачынаюць падаць з небасхілу.
І заціхла шамаценне крылаў,
і паснулі ў стоме галубы.

Раптам бачу
(Ці здалося мне?
Гэткае магло хіба прысніцца!)
...у высокім вежавым акне
белы твар выгнанніцы-чарніцы.

Праз гады —
праз тысячу гадоў
пазіраюць здзіўленыя вочы
на тугія струны правадоў,
на агні электрапаяздоў,
што на скібы крояць цемру ночы.

І ў паклоне
я схіліўся нізка
у былога з новым на мяжы:
— Беларусь!
Жыцця майго калыска!
Пра сябе як болей раскажы.

Раскажы!
Як болей!
I дазволь
падзяліць з табой
твой даўні боль.

*Мінск — Заслаўе — Лысая гара*
*1979—1988*

# ЗМЕСТ

Литературно-художественное издание

Вольский Артур Витальевич
(Зайдель-Вольский)

НОВОСЕЛЬЕ ДЕРЕВЬЕВ

*Стихи и поэма*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

Вольскі Артур Віталье віч
(Зайдэль-Вольскі)

НАВАСЕЛЛЕ ДРЭЎ

*Вершы і паэма*

Рэдактар Р. М. Яўсееў
Мастак У. А. Бойка
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар І. М. Паланейчык

ІБ № 3252
Здадзена ў набор 07.04.89. Падп. да друку 28.09.89. АТ 06883. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,68. Ум. фарб.-адб. 4,90. Ул.-выд. арк. 4,56. Тыраж 4200 экз. Зак. 2405. Цана 55 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Вольскі А.**

В71 Наваселле дрэў: Вершы і паэма.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 125 с.: іл.

ISBN 5-340-00458-9.

Вольский А. Новоселье деревьев: Стихи и поэма.

Новую кнігу вершаў паэт прысвячае самым надзённым пытанням сучаснасці. Лёс роднага краю і тое, што адбываецца за яго межамі, гераізм савецкіх людзей, якія здабылі перамогу, ў Вялікай Айчыннай вайне, сувязь далёкага мінулага з сучаснасцю і будучыняй — вось кола пытанняў, якія хвалююць аўтара.

Чытач знойдзе ў кнізе і лірычныя вершы на вечныя тэмы — прыроды і кахання.

В $\frac{4702120202-003}{М302(03)-90}$ 44—90 ББК 84Бел7